

№23 (116), люты 1998 г.

**2 лютага споўнілася 160 год з дня народзінаў нацыянальнага героя Беларусі КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА**



***...Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе!***

## ПРЫВІТАНЬНЕ МІРОНУ
## (НАВАГОДНІ ЛІСТ ДА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ)

Мінуў чорны 1997 год і разам зь ім тры гады акупацыйнага рэжыму на Беларусі. Для адных гэты час— пякучая горыч і сорам за суайчыньнікаў, за людзей, за нашу краіну. Іншыя... іншыя,прывыкшыя ў рабстве, і не заўважылі, якое надвор'е. Рух нашае найноўшае гісторыі, што пачалася 25 жніўня 1991 года, ёсьць працэс Адраджэньня вольнае беларускае асобы і працэс выміраньня нявольнікаў. Выміраньня біялагічнага, як савецкага віду і перайтварэньня псыхалягічнага—перамена ў душы. Канфлікт нашага грамадзтва, што абвастрыла акупацыя й дыктатура, ёсьць канфлікт сьветапогляды и духоўны. Ён адлюстроўвае кансалідацыю і Адраджэньне беларускае нацыі. Змагаюцца тыя, хто за незалежнасьць і Беларусь і тыя, хто супраць. Вось стрыжань змагарнага працэсу, які разьвіваецца цяжка, але аптымістычна, бо ініцыятыва не ў нявольнікаў, а ў свабодных. Бо дыктуе ідэя, сэрца, а не жывот.

Пытаньне: за тры гады ўнутранае акупацыі, якое дзеяньне рэжыму найбольш яго адлюстроўвала і якое найбольш зьняважыла і спаганіла годнасьць людзей? Я лічу, што публічны зьдзек над Беларускім Сьцягам. Гэтага нельга забыць, гэтых гарылаў на экране (дзеяньне зьнятае на відэастужку), іхныя самазадаволеныя фізіяноміі, іхныя ашчэраныя раты і найграную вясёласьць гэтых садомскіх гвалтаўнікоў, што зрывалі з дзяржаўнага флагштоку наш нацыянальны сьцяг і рвалі, шкамуталі на часткі яго сьвятасьць, пісалі на ёй свае паганыя словы. Не ведалі, аднак, што падпісалі сабе прыгавор. Такое ніколі не даруецца і ніякага суду не будзе дастаткова і ніякі суд не будзе прымацца пад увагу перад судом справядлівым.

Наш сьцяг - гэта сымбаль нас, сымбаль нашага зямнога і ўсяленскага йснаваньня, сымбаль нашае краіны і нашае свабоды. Таму падняцьце і ўшанаваньне гэтага сымбалю ў змаганьні ёсьць найважнейшым. Шануйма ж наш сьвяты беларускі бел-чырвона-белы сьцяг.

Чалавекам 1997 году ў гэтым сэньсе я б назваў, безумоўна, Мірона. Чалавек-лягенда, чалавек-таямніца, чалавек геройскі. Узьдымаючы беларускі сьцяг на недасяжальную вышыню, ён выдатна прадэманстраваў рэжыму і ўсяму грамадзтву, што Беларусь жыве і пераможа. Вось прыклад эфэктоўнае барацьбы аднаго змагара. Гэта не жарты. Па ўзроўню ўздзеяньня на сьвядомасьць беларусаў Мірон зрабіў больш, чым уся так званая "агульная" беларуская партыйная дэмакратыя разам узятая.

Слава Мірону! Слава беларускім змагарам!

Дарагія хлопцы і дзяўчаты! Пачаўся 1998 год. Прадаўжаецца нашае змаганьне і набліжаецца наша свабода. Не губляйма часу і стараймася, каб прыйшла яна хутчэй. А таму - не слухайма чужых "мудрацоў", не зважайма на пэсымістаў, бо закон жыцьця такі: як мы настроеныя, так і будзе. Хто хоча перамагчы, той настройваецца на перамогу. Змагаючыся за сьветлую ідэю — за Адраджэньне Беларусі, мы павінны стварыць моцную грамадзкую атмасфэру і ўздымаць "наш беларускі вольны дух". Мы не павінны дыхаць атрутнымі міязмамі таго подлага, вальяжнага, упаднікага паветра, якое задымілі розныя "друкары", прадстаўнікі і прадстаўніцы самых старажытных журналісцкіх прафэсыяў, усялякія палітычныя і літаратурныя саўкі без роду і племені, што пішуць па-расейску, абзываюць наш народ "даяркамі" і "пьяненькімі мужычкамі" і так любяць "демократію" і "Белоруссію", што, пражыўшы тут жыцьцё, нават слова не вывучылі па-беларуску (не кажу ўжо пра мову). Адварочвайцеся ад іх і не марнуйце ўвагі.

У пантэоне нашай мінуласьці і сучаснасьці ёсьць мноства сьветлых творцаў, асоб, дзяржаўных дзеячоў, духоўных настаўнікаў і сьвятых. Яны ўсе без выключэньня былі людзьмі сэрца, якое балела за родную зямлю, за мову, за песьню беларускую, за кожнага беларуса. У іх варта вучыцца вопыту жыцьця і мудрасьці змаганьня. Паўтару тое, што ўжо казаў ня раз. У палітычнай барацьбе за Бацькаўшчыну, калі сілы мала, перамагае дух. Мацуйма ж наш дух, бо рэжым спадзяецца на сілу.

Цяпер дзьве найважнейшыя задачы стаяць перад намі (якія мы пачалі ўжо ажыцьцяўляць): разгортваньне кампаніі за адстаўку лукашэнкі (збор подпісаў і г.д.) і вызваленьне з турмы нашых геpаічных палітвязьняў -- Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Кабанчука.

Я думаю, што 1998 год адчыніць перад беларусам новыя магчымасьці, зьявяцца шансы, іх скарыстае той, хто не марудзіць, хто працуе, хто будзе гатовы.

*Зянон Пазьняк,*
*Старшыня БНФ*
*"Адраджэньне"*
*01.01.1998*

## "МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА" №4

..У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабіці на маскаля. Суды маскоўскія— гэта воўчая яма, гдзе не разбіраюць, чы за табой праўда, чы не, а скубуць адно як могуць. Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма, хто дужэйшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кажнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не дазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю...

*Яська-гаспадар з-пад Вільні.*

## ЗВАРОТ

**да дэмакратычных партыяў, рухаў, грамадзянаў Рэспублікі Беларусь**

Пасля лістапада 1996 года рэжым Лукашэнкі зліквідаваў законна абраныя Вярхоўны Савет, Канстытуцыйны Суд, Цэнтрвыбаркам, замяніўшы іх сваімі прызначэнцамі. Практычна быў здзейснены дзяржаўны пераварот.

На працягу апошняга года выканаўчая ўлада і судовая сістэма карыстаюцца не законамі і Канстытуцыяй 1994 года, а пастановамі і дэкрэтамі, што выпускаюцца ў адміністрацыі Лукашэнкі. Яны не могуць лічыцца законнымі.

Сябры Рады "Выбар" прымаюць рашэнне кіравацца ў сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці толькі Канстытуцыяй 1994 года і законамі, прынятымі да дзяржаўнага перавароту, і заклікаюць дэмакратычныя партыі, рухі, грамадзянаў Рэспублікі Беларусь падтрымаць нашыя дзеянні.

*Прынята на агульным Сходзе сяброў Рады "Выбар" БНФ "Адраджэньне"*

*8 снежня 1997 года.*

---

**Ад рэдакцыі:** Як нам стала вядома, сябра Рады "Выбар" Юрась Мароз, выконваючы гэты Зварот, 18 лютага наладзіў без афіцыйнага дазволу пікет каля абласнога суда ў Менску, дзе пачалі разглядаць крымінальную справу Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага.

За гэта ён быў жорстка збіты міліцыянтамі, а потым прысуджаны да адміністратыўнага арышту тэрмінам на 15 сутак

Мы з табою, наш сябра!

**СВАБОДУ палітычным вязьням сумленьня ў Беларусі: Вадзіму Лабковічу, Аляксею Шыдлоўскаму, Вадзіму Кабанчуку!**




чытайце на 2-й стар.

*Гераічным палітвязням— Вадзіму Лабковічу, Аляксею Шыдлоўскаму, Вадзіму Кабанчуку.*

## Дарагія хлопцы!

Вось ужо больш за 5 месяцаў злачынны рэжым трымае вас за кратамі. Толькі за тое, што ўсім сэрцам любіце нашу Беларусь, толькі за тое, што жадаеце "людзьмі звацца", толькі за тое, што ненавідзіце ворагаў беларускай незалежнасці.

І пакуль вы прыкаваныя кайданамі да турэмнага казамата, не будзе мне спакою ні ўдзень, ні ўночы. Я думаю пра вас, нашы мужныя змагары. Мой "дух" пройдзе праз тоўстыя сцены і моцную ахову і вы гэта адчуеце.

Трымайцеся, дарагія, любыя хлопцы. Няўхільна набліжаецца час вашай і нашай агульнай волі.

Ніколі чужынцы не будуць панаваць на нашае святой зямлі—зямлі Скарыны і Каліноўскага. Ніколі!!!

Беларусь будзе вольнай!

Моцна абдымаю.

*Ваш "Мірон".*

*2. 02. 1998 г.*

**Ад рэдакцыі:** ліст легендарнага Мірона быў перададзены з крыніцы, вартай даверу.

# 6 МЕСЯЦАЎ ЗА КРАТАМІ

**ВАДЗІМ ЛАБКОВІЧ**

Родам зь Менску. 16 гадоў. Вучань 11-га кляса 95-й школы г. Менска. Добра вучыцца. Першы раз быў затрыманы вясной 1997 г. пад час масавай маладзёвай маніфэстацыі супраць дыктатарскага рэжыму. Зноў арыштаваны 28 жніўня. Абвінавачаны па арт. 201 ч.2 і 86 ч.2 Крымінальнага Кодэксу («злоснае хуліганства» і «зьнявага дзяржаўнай сымболікі"). Кадэбісты лічаць, што ён разьвешваў у горадзе беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі.

Маці: Лабковіч Ядзвіга Язэпаўна, таваразнаўца. Выхоўвае адна Вадзіма і меншага сына 4-х класьніка. Маці Лабковіча адмовілася на запатрабаваньне пракурора Стаўпецкага раёна даваць паказанні супраць сына. За гэта пракурор не дазволіў ёй спатканьне з сынам (што зьяўляецца парушэньнем закону, тым больш, што Вадзім яшчэ непаўналетні).

**АЛЯКСЕЙ ШЫДЛОЎСКІ**

Студэнт 1-га курса журналісцкага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. 18 гадоў (нарадзіўся 27.XII.1978)- Выключаны з унівэрсытэту летам 1997 г. за палітычную дзейнасць у «Маладым Фронце». Вясной 1997 года быў арыштаваны на 10 сутак за ўдзел у студэнцкіх дамантрацыях пратэсту супраць рэжыму. Трымаў галадоўку.

Родам са Стоўбцаў. Бацька: .Міхась Пятровіч, працуе шафёрам. Маці: Раіса Янаўна, працуе на раённай пошце. Арыштаваны 25-га жніўня. Прад'яўлены тыя ж абвінавачваньні, што і Лабковічу. Са Стоўбцаў Аляксея перавялі у Жодзіна. Там ён абвясьціў галадоўку. За гэта быў па зьверску зьбіты адміністрацыяй Жодзінскай следчай турмы. Трапіў у рэанімацыйнае турэмнага шпіталю. Абвастрылася хваробы: арытмія сэрца, астматычныя прыступы, запаленьне нырак.

**ВАДЗІМ КАБАНЧУК**

Выпускнік Беларускай Палітэхнічнай Акадэміі, аўтатрактарны факультэт, 22 гады. Арыштаваны 12-га кастрычніка пасьля масавай акцыі Народнага Фронту за ўдзел у веснавых дэманстрацыях. Знаходзіцца ў сьледчай турме ў Менску. Нарадзіўся і жыве ў Бабруйску.

Бацька: Міхась Апанасавіч, рабочы. Маці: Тацьцяна Карпаўна, бібліятэкар. Два прадзеды Вадзіма загінулі ў сталінскіх лягерах у Сібіры. Бабуля пры Сталіне адсядзела восем гадоў і вярнулася з лягера сляпой. У турме у Вадзіма абвастрыліся хваробы нырак (піэланэфрыт), горла і сэрца. Маці забаранілі перадаваць яму лекі.

---

20 сьнежня ў суботу ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў быў працоўны дзень. Насупраць галоўнага ўваходу у будынак ААН на 1-й авеню ў Нью-Ёрку сабралася вялікая грамада амэрыканскіх беларусаў, каб выказаць свой пратэст бесчалавечнаму рэжыму Лукашэнкі на Беларусі, які кідае ў турму напаўналетніх за палітычныя погляды, утрымвае за кратами моладзь без суду, ужывае катаваньні, зьбівае людзей.

Дэманстранты патрабавалі неадкладнага вызваленьня з турмы палітычных вязьняў рэжыму: 16-гадовага школьніка Вадзіма Лабковіча, 18-гадовага студэнта Аляксея Шыдлоўскага і нядаўняга выпускніка Палітэхнічнай акадэміі Вадзіма Кабанчука. Усіх траіх вось ужо 4 месяцы без суду ўтрымліваюць ў сьледчай турме па абвінавачаньні ў напісаньні лёзунгаў за свабоду Беларусі, супраць дыктатуры і рэжыму Лукашэнкі. Над дэманстрантамі была моц бел-чырвона-белых сьцягоў і плякатаў па-беларуску і па-ангельску: «Патрабуем свабоды палітычным вязьням у Беларусі», «Патрабуем вызваліць з турмы В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука — палітычных вязьняў рэжыму Лукашэнкі» «Лукашэнка перапраўляе Беларусь у турму» і інш.

Прысутныя хорам выкрыквалі лёзунгі, раздавалі лістоўкі амэрыканцам (у тым ліку і паліцыі), выступалі з прамовамі, дзе казалі, што справа вызваленьня В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука ёсць зараз самай актуальнай і найважнейшай гуманітарнай справай беларускага грамадзтва і абаронцаў правоў чалавека, бо правы арыштаваных паламаныя, бо пад пагрозай іхны чалавечы гонар, свабода, здароўе і жыцьцё. Усе беларусы ва ўсім сьвеце павінны дамагацца вызваленьня з лукашысцкай турмы гэтых маладых беларускіх герояў, якія ахвяраваліся і цярпяць за Беларусь!

Было выказана таксама зьдзіўленьне маўчаньнем так званага «незалежнага» друку ў Беларусі, які замест таго, каб выступіць у абарону Лабковіча, Шыдлоўскага і Кабанчука, мусіруе пустапарожнюю маскоўска-палітыканскую (і галоўным чынам мафіёзную) тэму П. Шарамета, якая не мае ніякіх дачыненьняў ні да свабоды слова, ні наогул да вызвольнага змаганьня ў Беларусі.

Увогуле Захад, як носьбіт больш гуманнай ідэалёгіі хутчэй адклікаецца на несправядлівасьць, паламаньне правоў і пакуты канкрэтнага чалавека і рэальных людзей. Беларусы Амэрыкі вельмі занепакоеныя лесам маладых вязьняў,бо тут ім (амэрыканцам) добра вядома, як лукашысты схапілі ў 1996 годзе маладога выкладчыка Бабруйскага лесатэхнічнага тэхнікума Юрыя Бабуджыева і 7 месяцаў без суду катавалі яго, «выбівалі» паказаньні. Турэмныя каты замардавалі Юрыя насьмерць. Яго забілі без суду ў турме, адабралі жыцьцё пакутніцкай сьмерцю, і ніхто ў Беларусі ня выступіў у яго абарону, не падняў голас аб адказнасьці забойцаў. Гэта страшны энкавэдысцкі рэжым і страчанае грамадзтва.

Людзі жывыя духам, здаровыя псіхічна, людзі добрай волі, беларусы павінны ратаваць, абараняць, змагацца за кожнага беларуса, за кожнага грамадзяніна Беларусі, які выступіў за свабоду і волю, супраць дыктатуры і цярпіць ад акупантаў. Так гаварылася на Беларускай дэманстрацыі перад будынкам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

Потым быў зачытаны калектыўны ліст у Камісію па правох чалавека ААН, які будзе перададзены таксама у іншыя праваахоўныя міжнародныя арганізацыі.

*Мар'ян Ванькевіч*

*г. Нью-Ёрк*

## У СТУДЗЕНІ СПОЎНІЛАСЯ 60 ГОД З ДНЯ НАРОДЗІНАЎ УЛАДЗІМІРА СЯМЁНАВІЧА ВЫСОЦКАГА

## Я НЕ ЛЮБЛЮ



Я не люблю фатального исхода,
От жизни никогда не устаю.
Я не люблю любое время года,
В которое болею или пью.

Я не люблю холодного цинизма,
В восторженность не верю, и ещё-
Когда чужой мои читает письма,
Заглядывая мне через плечо.

Я не люблю, когда наполовину,
Или когда прервали разговор.
Я не люблю, когда стреляют в спину,
Я также против выстрелов в упор.

Я ненавижу сплетни в виде версий,
Червей сомненья, почестей иглу,
Или--когда всё время против шерсти,
Или--когда железом по стеклу.

Я не люблю уверенности сытой,
Уж лучше пусть откажут тормоза.
Досадно мне, коль слово "честь" забыто
И коль в чести наветы за глаза.

Когда я вижу сломанные крылья--
Нет жалости во мне, и неспроста,
Я не люблю насилья и бессилья,
Вот только жаль распятого Христа.

Я не люблю себя, когда я трушу,
Я не терплю, когда невинных бьют.
Я не люблю, когда мне лезут в душу,
Тем более--когда в неё плюют.

Я не люблю манежи и арены:
На них мильён меняют по рублю,--
Пусть впереди большие перемены,
Я это никогда не полюблю.

1969 г.

## "СЛАБО" АД МІРОНА

Конкурс "Слабо", арганізаваны наўлоўным Міронам, скончыўся—міліцыя прайграла.

Акурат 27 дзён і начэй (з 22 снежня па 17 студзеня ўключна) правісеў у самым цэнтры Лёзна на трубе быткамбіната бел-чырвона-белы сцяг, які мясцовыя ўлады перарабілі пад "Вясёлы Роджэр".Калі на гістарычны беларускі сцяг яны кідаліся раней як бык на чырвоную анучу, то чорнае палотнішча іх цалкам задавальняе. Мабыць, ў Лёзненскім райвыканкаме заселі старыя заслужаныя піраты ці анархісты.

За гэты час не знайшлося чалавека, які рызыкнуў бы зняць палотнішча са злашчаснай трубы. Кажуць, адзін высокапастаўлены міліцыянт прапаноўваў 100.000 бел. рублёў таму, хто рызыкне ўзняцца на верхатуру. Але сьмелых ні з мясцовых жыхароў, ні з міліцыянтаў не знайшлося. Відаць, прэзідэнт закарміў "сваё" міліцэйскае войска.

Праз 27 дзён Мірон сам зняў палотнішча, якое прыйшло ў нягоднасць, і зараз яно знаходзіцца ў Радзе "Выбар" . Чаму менавіта праз 27 дзён?—кажуць, гэтым Мірон даў зразумець, што для яго найбольш важная дата—27 ліпеня, Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусі.

Нягледзячы на тое, што быў адпраўлены у адстаўку начальнік Лёзненскага РАУС і заменены раённы пракурор, але апошні міронаўскі трафей лёзненскія пінкертоны так і не ўзялі—раніцай 18 студзеня сцяга над Лёзнам ужо не было.

**А.Б.**




**"Кто вам сказаў, што ў Беларусії нет свабоды слова? Я дам вам плакат, вы выйдзяце с ім на уліцу і увідзяце, абсалютна нічаво не праізайдзёт."**

***У свой час на старонках "Выбара" друкавалася "Чорная кніга" злачынстваў "советской власти" на Віцебшчыне". З увядзеннем прэзідэнтва на Беларусі гэтая "власть" як бытцам знікла, перайшла ў іншую форму, але сутнасць засталася тая ж—дыктатарская, каманда-адміністратыўная, прарасейская, акупацыйна-каланіяльная, антыбеларуская. Таму "Выбар" будзе рэгулярна змяшчаць матэрыялы пад рубрыкай***

***"Злачынствы антыбеларускай хунты на Віцебшчыне."***

## АКУПАНТЫ ЗНІШЧАЮЦЬ НАШУ ПАМЯЦЬ

Нядаўна мясцовая прэса паведаміла пра разбурэнне ў Віцебску чарговага помніка гісторыі—старадаўняга будынка на вул.Талстога. З апублікаваных матэрыялаў вынікае, што дом разбураны па віне вядомай фірмы "Марко" ("Мартынов и Компания"), якая хацела прыстасаваць яго для сваіх патрэбаў. Калі б такое адбылося ў нашыя дні ў гістарычным цэнтры Вільні, Рыгі ці Варшавы, то "господин" Мартынаў, кіраўнік названай фірмы, несумненна, апынуўся б на лаве падсудных, а яганая фірма збанкрутавала б у выніку вялізнага штрафу. Так у Еўропе. Але сёння Віцебск—не ў Еўропе, а **фактычна**—у дзікай азіяцкай Расеі. Толькі шматкроць перароблены будынак ратушы ("каланчы", як называюць яго абмаскаленыя віцьбляне), што захаваўся нейкім дзіўным чынам, нагадвае пра часы, калі Віцебск быў вольным еўрапейскім горадам, меў Майдэборскае права. Ніводны расейскі горад такога права не меў.

Няма нічога дзіўнага, што ў Віцебску ўвесь час знішчаюць старадаўнія гістарычныя будынкі. Чалавек без гісторыі, без памяці—звычайная жывёліна. Акупацыйная ўлада пазбаўляе беларусаў гістарычнай памяці, ператварае іх у быдла, няздольнае за сябе пастаяць.

*Алесь Воліч*

## ВАЙНА ЎЛАДАЎ З "ВЫБАРАМ"

***У апошнія гады ў сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці Рада "Выбар" БНФ "Адраджэньне" кіравалася Канстытуцыяй 1994 году. У адпаведнасці з ёй для правядзення пікету не трэба звяртацца да афіцыйных уладаў.***

***Калі раней міліцыя фальсіфікавала пратаколы адносна адміністратыўнага парушэння і лічыла пікеты за правядзенне несанкцыянаваных мітынгаў, то з увядзеннем у дзейнасць сумнавядомага прэзідэнцкага дэкрэту №5 у сакавіку 1997 г. пачалося "паляванне" на пікетчыкаў. Улады пачалі помсціць сябрам Рады.***

***За вернасць Асноўнаму Закону 1994 году яны атрымлівалі ў судах шматмільённыя штрафы, падвяргаліся адміністратыўнаму арышту.***

***У 1996-1997 гг. пяць сяброў Рады "Выбар" атрымалі каля чвэрткі мільярду рублёў штрафу і больш за 100 сутак адміністратыўнага арышту.***


Адрас рэдакцыі: Крапівінскае поле пад Воршай
Код 8.09, тэлефон 1514
Набрана і зьвярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ
Надрукавана у друкарні Кастуся Каліноўскага

"ВЫБАР" Заснавальнік Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары". Рэдактар Барыс ХАМАЙДА.
Наклад 499
Замова--71
Падпісана да друку 20.02.98 г.